Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




# ГАСЦІНЕЦ

БЕЛАРУСКІЯ ПАВУЧАННІ

Думай з вечара, а рабі з рання

№ 8 (324) ЧЭРВЕНЬ 2022 ГОДА

«ГАРАДОЦКІ ПАРНАС»

## ПЛЕНЭР ПА СПІРАЛЬНЫМ ПЛЯЦЕННІ ПАСПЯХОВА СТАРТАВАЎ

**Першы абласны пленэр па спіральным пляценні прайшоў 4 чэрвеня 2022 года ва ўрочышчы Вараб'ёвы горы г.Гарадка Віцебскай вобласці падчас рэгіянальнага свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору "Гарадоцкі Парнас", прысвечанага паэту-земляку, аўтару паэмы К.Вераніцыну.**



Арганізатары пленэра: упраўленне культуры Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта, дзяржаўная ўстанова "Віцебскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці", аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта.

Мэтамі правядзення пленэра з'яўляліся: падтрымка народнай творчасці і народных мастацкіх рамёстваў, выяўленне сучаснага стану і перспектыў развіцця народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, аднаўленне рэдкіх і забытых відаў традыцыйных мастацкіх рамёстваў і стымуляванне іх развіцця, дэманстрацыя творчага патэнцыялу майстроў народных мастацкіх рамёстваў, папулярызацыя відаў рамёстваў, унесеных у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Традыцыйная тэхналогія спіральнага пляцення Віцебскай вобласці атрымала статус гісторыка-культурнай каштоўнасці нематэрыяльнага праяўлення творчасці чалавека ў 2020 годзе на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай Рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь .

Удзельнікамі пленэра сталі 20 майстроў з Віцебшчыны. Сярод іх усім вядомыя "мэтры": народныя майстры Рэспублікі Беларусь — Васіль Сіманковіч, Людміла Гаравая, Вольга Рэут з г.Гарадка, Хадзякова Тэрэса з г.Чашнікі, член Беларускага саюза майстроў Людміла Вараб'ёва з Віцебска. Былі таксама майстры з Аршанскага, Сенненскага, Чашніцкага, Дубровенскага раёнаў Віцебскай вобласці і г.Віцебска.

Дэвіз пленэра: Навучыся і перадай майстэрства! Першы абласны пленэр па спіральным пляценні атрымаўся сапраўды цікавым, пазнавальным і разнастайным. Усе ўдзельнікі атрымалі сертыфікаты.

**Паводле: omcnt.by**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ДОБРЫЯ СПРАВЫ АД «КАРЫТАС»

**У бягучым годзе пры садзейнічанні Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Гарадоцкага раёна некаторым катэгорыям грамадзян была прадастаўлена бязвыплатная дапамога ад Дабрачыннага каталіцкага таварыства «Карытас» Віцебскай епархіі Рымска-каталіцкай царквы ў Рэспубліцы Беларусь. Пра гэта піша «Гарадоцкі веснік».**

Шматдзетным сем'ям спецыялісты ТЦСАН перадалі саджанцы грушы, маліны, слівы і яблыні рознага тэрміну паспявання. Дзякуючы добрай місіі каталіцкага духавенства працягваецца перадача харчовых набораў сем'ям, у якіх выхоўваюцца дзеці-інваліды. Ад асобы гарадакчан, якія атрымалі бязвыплатныя наборы, выказваем падзяку за чуласць і добрыя справы кіраўніцтву «Карытас», уменне падтрымаць тых, хто мае ў гэтым патрэбу.

На сваёй старонцы ў інтэрнэце арганізацыя паведамляе: «Адной з асноўных форм дзейнасці Карытас з'яўляецца аказанне дапамогі дзецям — сіротам, хворым, інвалідам, шматдзетным сем'ям, бяздомным і іншым, якія жывуць у нястачы; арганізацыя адпачынку і аздараўленне дзяцей на тэрыторыі РБ і за мяжой у парадку, устаноўленым

(працяг на стар. 2)



МЯСЦОВЫ РЫНАК

## КОШТ ГАРОДНІНЫ АДНОСНА НЕ ВЫСОКІ

**Якія кошты гуркоў, таматаў, капусты і садавіны на рынку ў гэтыя выхадныя дні? Адносны не высокія, калі ў вас раённы сярэдні статыстычны заробак у 1085 рублёў за красавік. І лепш набываць тавар у гарадоцкіх прадаўцоў...**

З пачаткам лета і першымі спякотнымі днямі варта рабіць салаты з гуркоў, таматаў, капусты і г.д. Свая гародніна будзе дзесьці праз месяц, а на рынку выбар разнастайны. Былі бы толькі грошы.

У крытым павільёне мясцовага рынку маецца цяпер толькі адна кропка, дзе прадаюць дары зямлі.

11 чэрвеня тут таматы былі коштам па 4 рублі, гуркі па 2 рубля, капуста па 2,80. Маладая бульба каштавала па 3,00. Гэты тавар адпускаецца праз электронныя вагі, на якіх бачны кошт кожнага віда гародніны. Бульбу, капусту, гуркі, яблыкі магчыма выбраць самаму.

Таксама тут прадаецца і паўднёвая садавіна: абрыкосы, персікі, лімоны і г.д..

Тавар чэрвеня — трускалкі (клубніцы) яшчэ каштуюць па 13.00. Але з кожным завозам кошт будзе менш. Гэта датычыцца і ўсіх іншых вітамінных тавараў, якія прыносіць лета.

На уваходзе на рынак вёўся таксама гандаль гароднінай з машыны. Наш народ прываблівала простая надпіс фламастэрам: " Домашние. Брест«.

Толькі кошт гуркоў, таматаў, капусты быў той жа што і на рынку. Тут спачатку прадалі ўсю капусту па 2,80, потым ўсе таматы па 4,00 і апошнімі заставаліся толькі гуркі. І адпаведна спачатку трэба было адстаяць у чарзе. Як у часы савецкага перыяду. Гэта мусіць і прываблівае грамадзян сталага ўзросту. Але без чаргі і выбраць самаму прасцей на стацыянарным рынку, а не з калёс.

У Гарадку мясцовыя гандляры яшчэ прадаюць гародніну і садавіну у «Апельсіне» каля «Гасцінца» і ў «зялёным ралеце» на пачатку вул. Баграмяна.

Найбольш па коштах і абслугоўванню мяне прываблівае «зялёны ралет» і крыты павільён мясцовага рынку. Але ў кожнага пакупніка свой выбар. Быў бы ён толькі добрым.

**Л. Антонаў**

СЯРЭДНІ ЗАРОБАК

## АДЗІН З САМЫХ НІЗКІХ ЗАРОБКАЎ У ВОБЛАСЦІ

**Па дадзеных Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Віцебскай вобласці Гарадоцкі раён па сярэдняму заробку ў 1087,8 рубля адзін са слабейшых на Віцебшчыне, а рэальныя заробкі зменшыліся да 91,7%.**

АдГалоўнагастатыстычнагаўпраўлення Віцебскай вобласці атрымана дадзеныя аб сацыяльна-эканамічным развіцці вобласці, яе гарадоў і раёнаў за студзень-красавік гэтага году. Гэтыя даныя даюцца ў параўнанні з аналагічным перыядам 2021 году.

Найбольш цікава даведацца, што адбылося з рэальнай зарплатай насельніцтва за студзень-красавік з раздзела «Кошт працоўнай сілы».

Так у Гарадоцкім раёне заробак красавіка 2022 года склаў толькі 98,4% ад красавіка 2021 года і яшчэ менш — 91,7% ад снежня 2021 году. І толькі 100,7% ад сакавіка гэтага году, калі ішла паўнамаштабная агрэсія Расіі ва Украіне.

Па вобласці гэтыя паказчыкі мінулага году горш нашых раённых: заробак красавіка 2022 года склаў толькі 97,5% ад красавіка 2021 года і яшчэ менш — 87,3% ад снежня 2021 году.

Калі ж казаць пра намінальны налічаны заробак закрасавік, то ён у Гарадоцкім раёне склаў аж 1087,8 рубля. Але гэта толькі 82,9% ад сярэднеабласнога паказчыка і трэцяе месца з знізу сярод гарадоў і раёнаў вобласці. Менш толькі ў Бешанковіцкім і Шаркаўшчынскім раёнах. У апошнім раёну гэты паказчык менш 1000 рублёў: 946,2 рубля. Варта адзначыць, што Бешанковіцкі раён за месяц скарацію адставанне ад нас да 2,6 рубля. Хутка мо перойдзем і на перадапошняе месца...

З гэтай табліцы звяртае увагу падзенне рэальных заробкаў у Наваполацку. Калі адносна іншых рэгёнаў тут самы высокі сярэдні заробак у 1 567,3 рубля, то ў рэальным вымярэнні малюнак не аптымістычны. Для насельніцтва Наваполацку заробак красавіка 2022 года склаў толькі 87,9% ад красавіка 2021 года і яшчэ менш — 76,7% ад снежня 2021 году. Так мусіць адгукаецца агрэсія і санкцыі на рэальным заробку ў Наваполацку.

**Л. Антонаў**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

*(пачатак на стар. 1)*

заканадаўствам РБ.

Асноўнымі дабрачыннымі праектамі, якія рэалізоўвае і ажыццяўляе Карытас Віцебскай дыяцэзіі, з'яўляюцца:

Атрыманне і размеркаванне гуманітарных грузаў.

Дабрачынныя сталовыя ў Віцебску і Глыбокім.

Калядныя акцыі.

Хлебапякарны цэх, вырабы якога ішлі на дабрачынныя патрэбы.

Курсы кампутарнай графікі для маладых інвалідаў.

Дапамога Сялюцкаму дому-інтэрнату для псіханеўралагічных хворых, якая ўключае ў сябе: пакупка лекаў, мыйных і сродкаў дэзінфекцыі, матрацаў, ложкаў і шмат чаго іншага.

Дапамога Багушэўскаму дома-інтэрнату для псіханеўралагічных хворых, якая ўключае ў сябе: пакупку прадуктаў харчавання, рамонт корпуса, дапамога ў адкрыцці музычных і мастацкіх гурткоў і шмат чаго іншага.

Дзіцячы адпачынак за мяжой.

Праца па праекце «Карытас — Бэтэль», які працуе ў Віцебску, Глыбокім, Мёрах і які накіраваны на маральную, сацыяльную і матэрыяльную падтрымку інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і парушэннямі апорна-рухальнага апарата.

Цэнтр сацыяльнай дапамогі пры парафіі Святога Антонія ў горадзе Віцебску.

Дабрачынная сталовая для людзей без пэўнага месца жыхарства.

Аказанне сацыяльных паслуг людзям сталага веку.

Духоўнасць і навука супраць СНІДу.

Карытас цесна супрацоўнічае з рымска-каталіцкімі парафіямі Віцебскай дыяцэзіі, а таксама з 13 тэрытарыяльнымі цэнтрамі па сацыяльным абслугоўванні насельніцтва Віцебскай вобласці, з дамамі састарэлых, з дзіцячымі дамамі, сацыяльнымі прытулкамі для непаўналетніх, з грамадскімі арганізацыямі Віцебскай вобласці (каля 20 арганізацый), якія ўключаюць у сябе анкаворых дзяцей, дзяцей-інвалідаў, дарослых інвалідаў і г.д."

**Паводле: www.caritas.by/be/aboutus/vicebsk**

«ГАРАДОЦКІ ПАРНАС»

# КОНКУРС «МІС «ДОЎГАЯ КАСА»

**Званне «Міс «Доўгая каса — дзявочая краса» атрымала Аляксандра Паршонак з Гарадка. Спаборніцтва пад такой назвай сярод сямі дзяўчатак ладзілася ўпершыню ў межах фестывалю «Тарас на Парнасе».**



Нездарма нашы продкі лічылі, што доўгая каса — сімвал дзявочай прыгажосці. Маленькія гарадакчанкі, нібы тыя яскравыя кветачкі, расказвалі пра сябе на сцэне і сваёй непаўторнай харызмай скаралі сэрцы прысутных і зрывалі гучныя авацыі. Таксама ў межах конкурсу яны падрыхтавалі прыгожыя вяночкі — лепшы атрыбут, які падкрэслівае прывабнасць доўгай касы.

Але ж спаборніцтва ёсць спаборніцтва, таму ў выбары пераможцы дапамагло кампетэнтнае журы. Так, у намінацыі «Міс Творчасць» перамагла Анастасія Дзясятнікава, «Міс Фантазія» стала Паліна Грыгор'ева, «Міс Арыгінальнасць» — Сафія Ушанёва, «Міс Прывабнасць» — Дар'я Ціханава, «Міс Зачараванне» — Варвара Еўдакімава, «Міс Грацыя» — Анжаліка Бондарава. І, нарэшце, званне «Міс «Доўгая каса — дзявочая краса» атрымала Аляксандра Паршонак (на здымку).

Падчас фотасесіі мы крыху бліжэй пазнаёміліся з Аляксандрай. Яна нарадзілася на Гарадоччыне. І нават пасля пераезду ў сталіцу нашай краіны кожнае лета бывае ў Гарадку — вядома ж, тут усе родныя і любімыя людзі. Дарэчы, дзяўчынка — вельмі творчая асоба, нават у школе вучыцца з мастацкім ухілам. Што ж датычыцца прывабнай касы, даўжыня якой складае, на хвілiначку, каля 110 см, то гэта ў нейкай ступені сямейная традыцыя. Некалі доўгія косы былі ў бабулі, пасля — у маці Сашы, а цяпер і сама дзяўчынка апынулася пераможцай конкурсу.

Зразумела, што прыгажосць, а тым больш такая, патрабуе асаблівага догляду. Паспрабуй ты расчасаць і заплесці гэткія косы, але нездарма ж часта кажуць: прыгажосць патрабуе ахвяр...

Рэдакцыя раённай газеты выказвае ўдзячнасць адміністрацыі Гарадоцкага ГДК за прадастаўленыя для фотасесіі касцюмы.

**Юлія РУДЗЯКОВА**
**www.garadvest.by**

# ЮБІЛЕЙНЫ КОНКУРС НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

**4 чэрвеня 2022 года, у межах XIII свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору «Гарадоцкі Парнас - 2022» прысвечанага паэту-земляку Канстанціну Веранiцыну адбыўся дзесяты, юбілейны раённы адкрыты конкурс народнай творчасці «Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса...?». Месцам правядзення свята зноў стаў бас-востраў, што знаходзіцца ў найпрыгажэйшых мясцінах Гарадоччыны — урочышчы Варабьёвы горы.**

Ужо дзесяты раз клуб майстроў «Вытокі» філіяла «Гарадоцкі Дом рамёстваў і фальклору» збірае самых таленавітых майстроў, мастакоў і аматараў творчасці не толькі Гарадка. Традыцыйна прысутнічаюць на конкурсе і госці з іншых раёнаў вобласці, натхнёныя на творчасць паэмай «Тарас на Парнасе». У 2022 годзе мы прымалі гасцей з Віцебска (Латышава Алена Уладзіміраўна — ўнітарнае прадпрыемства «Элект» ДУ «Бел ТІЗ» прадставіла пано «Макавае поле» у тэхніцы валянне з воўны ў намінацыі «Мой родны кут») і Талочына (майстры філіяла «Талочынскі раённы Дом рамёстваў» Станкевіч Ларыса Віктараўна і Селіверстава Любоў Сяргееўна прадставілі на конкурс сумесную работу ў тэхніках лозапляцення, роспісу і аплікацыі з саломкі«)

Усяго конкурс сабраў 20 ўдзельнікаў з 3 раёнаў вобласці, большасць, як і заўсёды, была з Гарадка. Конкурс праходзіў па трох намінацыях: «Вобраз Тараса», «Мой родны кут», «Сюжэтная замалёўка да паэмы «Тарас на Парнасе». На суд журы былі прадстаўлены вырабы ў розных тэхніках выканання: саломапляценне і аплікацыя з саломкі, кераміка, лазапляценне, шыццё, выцінанка, валянне з воўны, роспіс па тканіне, вязанне кручком, жывапіс, тэкстыльная лялька і інш.).

Актыўны ўдзел у конкурсе прымалі як дзеці, так і дарослыя з розных арганізацый раёна. «Дзіцячая школа мастацтваў г.Гарадок» Гарэлікава Аляксандра, 12 год III места ў намінацыі «Вобраз Тараса» . Яслі-сад № 2 г.Гарадок — III места ў намінацыі «Мой родны кут», ДУК «Гарадоцкі культурна-асветніцкі цэнтр і сетка публічных бібліятэк» — I места ў намінацыі «Вобраз Тараса».

**Святлана Хамутоўская**
**старшыня клубу «Вытокі»**
**haradoktour.by**

МУЗЫЧНЫ ФОРУМ

# АДЗІН З ЛЕПШЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ БЕЛАРУСІ

**Уладзімір Шакуцёў з Гарадка на I музычным форуме гарманістаў Беларусі стаў адным з лепшых.**

— Наша задача — прыцягнуць увагу да гарманістаў, — адзначыў старшыня Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі. — У сувязі з сітуацыяй, якая цяпер складваецца, — гарманістаў з кожным годам меншае, ёсць праблемы з музычнымі інструментамі, не заўсёды гэтых музыкантаў запрашаюць на вялікія сцэны, — мы стварылі Асацыяцыю гарманістаў Беларусі, якая будзе займацца каардынацыяй, папулярызацыяй дзейнасці музыкантаў.

Конкурс прадэманстраваў творчае гарэнне, патэнцыял гарманістаў. Удзел узяло каля 30 чалавек з усіх абласцей Беларусі. Але арганізатары спадзяюцца, што гарызонты форуму будуць пашырацца, бо кожны, хто стала займаецца музычнай творчасцю, рады паказаць сябе сталічнай аўдыторыі.

Гледачы атрымалі магчымасць сустрэцца з багатым і прыгожым народным мастацтвам нашай краіны, у цэнтры якога — традыцыйны любімы інструмент гармонік. Без яго даўней не абыходзілася ні адно вяселле, гулянка ў вёсцы, вечарынка ў горадзе, заўважыў Тадэвуш Стружэцкі: «Вельмі важна, што гармонік жыве і сёння карыстаецца папулярнасцю як сярод выканаўцаў, так і гледачоў. Многім сённяшнім удзельнікам ужо за 70 і за 80 гадоў, а гэта значыць, што з гармонікам яны ўсё жыццё».

Ды не адстаюць і маладыя. Узорны ансамбль гарманістаў «Аношкаўскія музыкі» Аношкаўскай дзіцячай школы мастацтваў Нясвіжскага раёна, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, завёў залу, падарыўшы сапраўдны біт на гармоніку. І хто скажа, што гармонік несучасны? Здаецца, клавіш два рады — а пачуццяў хоць гаць гаці. «Аношкаўскія музыкі», як многія іншыя гарманісты гала-канцэрта, паднялі залу — слухачы пусціліся ў скокі. Нядзіўна: цяжка стрымацца ад імпэту маладых хлопцаў у белых ботах з гармонікамі, якія рэжуць завадныя найгрышы, танцуюць і проста бяруць у палон абаяннем. Думаецца, сучаснае аблічча гармоніка — гэта «Аношкаўскія музыкі».

Віртуозна нараджалі пасажы Міхаіл Папруга з Беразіно, Уладзімір Шакуцёў з Гарадка, Пётр Андрусевіч з Пінска, Аляксандр Мурзін з Наваполацка, Ігар Пісчыкаў з Мінска, Барыс Харэвіч з Маладзечна, Алена Марчук з Кобрына і іншыя. Хтосьці з гармонікам стаяў, хтосьці сядзеў, хтосьці прытанцоўваў, але ніхто не выпускаў яго з рук. Як любімае дзіця, як незаменны атрыбут свята і цудоўнага настрою. Што яшчэ аб'ядноўвала гарманістаў, дык гэта ўсмешка. У прыватнасці, Сцяпан Сахарчук з Асіповіч безупынна азараў ёй залу, што стала сімвалам душэўнасці. Пераканана, усмешка і гармонік непадзельныя. Як і гарманіст і жыццялюбства. Прыклад — госць форуму Мікалай Казаў, самародак, які ўвайшоў у залатую дзясятку гарманістаў Расіі. Пераадолеў тысячы кіламетраў, каб пабачыцца з аднадумцамі. А іх тут, акрамя прыязных калег — удзельнікаў форуму, цэлая зала. Было відаць, як варушыліся іх вусны — падпявалі пад акампанемент самародка. Арыгінальнае выступленне атрымалася ў трыа Уладзіміра Ганчарова, Алены Мялешкі і Дар'і Несцярэнкі, дзе гармонік пасябраваў са скрыпкай і бубнам.

Каларытны перфоманс на сцэне Палаца МТЗ разгарнуў заслужаны аматарскі калектыў «Дударыкі» пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Дзмітрыя Ровенскага. «Дударыкі» дораць сваё адмысловае мастацтва вось ужо 52 гады, і гармонік у іх лёсе вызначальны.

Яскравым фінальным акордам гала-канцэрта пераможцаў конкурсу гарманістаў стала выступленне айчыннага баяніста з сусветным імем, уладальніка Кубка свету сярод баяністаў, лаўрэата ашаламляльнай колькасці міжнародных конкурсаў, а цяпер саліста Беларускай дзяржаўнай філармоніі, старшыні журы Уладзіслава Плігаўкі. Яго «Рокжарт» на баяне стаў ноу-хау і своеасаблівым творчым майстар-класам.

— Нашы народныя інструменты гармонік, баян — самыя блізкія чалавеку. Іх нездарма называюць народнымі, а жартам яшчэ — самымі боскімі, бо яны бязбожна дорага каштуюць, — адзначыў Уладзіслаў Плігаўка. — Пачатак справе пакладзены. Упэўнены, што гэты форум будзе развівацца, папаўняцца новымі талентамі, якіх у нашай краіне шмат. Іх трэба паказваць і даваць дарогу ў жыццё.

— Нам, арганізатарам, хацелася б, каб Першы форум гарманістаў даў пачатак доўгаму шляху па падтрымцы і развіцці беларускага народнага мастацтва, — выказаў надзею Тадэвуш Стружэцкі.

...Салоўка кожны год прылятае радаваць адметнымі спевамі — і можна ісці ў сады. Прагрэс пастаянна імкнецца наперад — і цяжка адарвацца ад навінак. Але публіка збіраецца ў Палацы культуры МТЗ. Поўную залу захапляе залівісты гарэза ў руках апантаных музыкантаў. Яго тэмбр светлы, гук цёплы. Яму ўласцівы яркасць і моц гучання. Ён дэманструе індывідуальнасць: то мяккі і пявучы, то шалёны і эксцэнтрычны... Яго гаспадары-гарманісты сёння ўжо не заўсёды ў брылях, але заўсёды з адкрытай душой. Думаецца, яны і надалей будуць дарыць цеплыню пачуццяў дзякуючы намаганням Асацыяцыі гарманістаў. І тады, можа, двухрадка перасягне па папулярнасці гаджэты?

**Наталля СВЯТЛОВА**
**zviazda.by**

***Ад рэдактара:*** *Прафесійнае журы высока ацаніла выканальніцкае майстэрства У. Шакуцёва і па выніках конкурсу ён стаў дыпламантам I ступені. Віншуем нашага зямляка з выдатным вынікам!*

АДУКАЦЫЯ МАСКОВІІ

# ЯКІЯ ЗАХОДНЕРУСКІЯ МАНАХІ МАСКВУ АДУКОЎВАЛІ

**Еўрапейская цывілізацыя ў класічным яе выглядзе ўпершыню з'явілася ў Маскоўскай дзяржаве ў вобразе заходнерускага манаха, які вучыўся ў езуіцкім калегіуме. Сёння шырокая расійская грамадскасць не гатовая прызнаць, што ў XVII стагоддзі Украіна і Беларусь сталі ў культурных адносінах значна вышэй за Маскоўскае царства. Якім чынам гэта адбылося і пры чым тут царкоўны раскол, раскажам у гэтым артыкуле.**



*Стэфан Баторый засноўвае Акадэмію і ўніверсітэт у Вільні.*
*Вікенцій Смакоўскі.*

У сучаснай расійскай гістарыяграфіі агульнапрынятай ідэяй лічыцца канцэпцыя «прарубання акна ў Еўропу» царом Пятром І. Але задоўга да Пятра адукаваныя колы Масковіі ўжо былі знаёмыя з каталіцкай Заходняй Еўропай праз пасярэдніцтва Рэчы Паспалітай, а калі казаць больш дакладна, Украіны і Беларусі.

Вось што аб гэтым пісаў слынны расійскі гісторык XIX ст. Васіль Ключэўскі: «Западноевропейская цивилизация в XVII в. приходила в Москву прежде всего в польской обработке, в шляхетской одежде. Впрочем, сначала даже не чистый поляк приносил её к нам. ...Западнорусский православный монах, выученный в школе латинской или в русской, устроенной по ее образцу, и был первым проводником западной науки, призванным в Москву».

На канец XVI — сярэдзіну XVII ст. Масква — дальняя перыферыя Еўропы. Ці не Еўропы нават. Часам на картах таго часу еўрапейска-азіяцкую мяжу праводзілі акурат па ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага. У той час, калі Мікола Гусоўскі пісаў на лаціне сваю «Песню пра зубра», а доктар медыцынскіх навук і выпускнік Падуанскага ўніверсітэта, палачанін Францыск Скарына друкаваў у Празе «Псалтыр», Маскоўская дзяржава толькі яшчэ пачынала адыходзіць ад ардынскай спадчыны.

Першыя праваслаўныя і свецкія школы ва ўсходнеславянскім свеце ўзнікаюць у канцы XVI стагоддзя таксама на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, прычым ствараюцца яны на ўзор польскіх каталіцкіх школ і перш за ўсё — езуіцкіх калегій.

Першым усходнеславянскім універсітэтам стала заснаваная ў 1576 годзе Канстанцінам Астрожскім на тэрыторыі цяперашняй Украіны Астрожская акадэмія. Яе фундатар быў сынам таго самага Канстанціна Іванавіча Астрожскага, ваяводы Кіеўскага, які перамог маскавітаў у знакамітай бітве пад Воршай. Касцяк выкладчыцкага складу новага ўніверсітэта склалі былыя прафесары Кракаўскага ўніверсітэта.

Амаль у той жа час у Вільні Вялікім князям Стэфанам Баторыем быў падпісаны прывілей аб адкрыцці ў сталіцы ВКЛ яшчэ адной вышэйшай навучальнай установы — Віленскай акадэміі.

Праз некалькі год у Полацку з'яўляецца Полацкі іезуіцкі калегіум ужо як сярэдняя навучальная ўстанова. Усё гэта сведчыць аб існаванні на тэрыторыі Вялікага княства агульнадзяржаўнай навучальнай палітыкі.

На той момант у Маскоўскай дзяржаве, фармальна праваслаўнай краіне, не было ніводнай праваслаўнай навучальнай установы, не кажучы ўжо пра свецкія.

**Культурная каланізацыя Масковіі з захаду**

Не дзіўна, што суіснаванне Маскоўскага царства побач з невымерна больш адукаванай Заходняй Руссю прывяло, у рэшце рэшт, да калапсу старамаскоўскай традыцыі і культурнай каланізацыі Масковіі з захаду. Гэты працэс пачаўся яшчэ ў першай палове XVII ст.

У 1649 годзе Аляксей Міхайлавіч запрашае ў Маскву для «выпраўлення» Бібліі, гэта значыць для перакладу з грэчаскага і наступнага выдання, шэраг выкладчыкаў з Кіева-Магілянскай акадэміі, заснаванай у 1632 годзе выдатным украінскім рэлігійным дзеячам, мітрапалітам Пятром Магілам.

У тым жа 1649 годзе акольнічы маскоўскага цара Фёдар Міхайлавіч Рцішчаў перавёз у Андрэеўскі манастыр у Маскве каля трыццаці манахаў з Кіева-Пячэрскай лаўры і іншых заходнерускіх манастыроў і арганізаваў там школу для перакладу замежных кніг, а таксама навучання мясцовых манахаў старажытным мовам. Ужо да сярэдзіны стагоддзя маскоўскія і нават правінцыйныя манастыры аказаліся перапоўненыя выхадцамі з Украіны і Беларусі.

Але ўсё гэта было нішто ў параўнанні з тым культурным «нашэсцем», якое пачалося пасля Трынаццацігадовай вайны 1654–1667 гг.. Далучэнне да Маскоўскага царства Левабярэжнай Украіны з Кіевам і масавы ўгон у палон адукаваных беларусаў прывялі да таго, што ў складзе дзяржавы з'явілася праслойка людзей, нашмат больш дасведчаных у рэлігійным і культурніцкім плане, чым большасць мясцовых жыхароў.

Далучэнне Украіны стала ключавой падзеяй для царкоўнай рэформы патрыярха Нікана. З аднаго боку, яно надало ёй неабходны імпульс: розніца ў абрадах паміж Маскоўскай і Заходнерускай традыцыямі павінна была быць ліквідавана, а самі абрады ўніфікаваны — прычым выбар быў зроблены на карысць заходнерускай формы. З іншага боку, далучэнне Кіева аблегчыла іміграцыю праваслаўных святароў з тэрыторыі Рэчы Паспалітай, якія і склалі кадравы касцяк для правядзення Ніканаўскай рэформы.

Такім чынам, першапачатковым штуршком было выпраўленне рэлігійных тэкстаў, праведзенае кіеўскімі манахамі. За ёй ішлі ўслед і іншыя новаўвядзенні па заходнерускім узоры, напрыклад, замена ранейшых унісонных спеваў на шматгалосныя. Натуральным чынам маскоўская версія царкоўнаславянскай мовы выціскаецца з ужытку і замяняецца заходнерускай.

Плынь еўрапеізацыі зусім не абмяжоўвалася царквой. Яна закранула і царскі двор: напрыклад, настаўнікам дзяцей Аляксея Міхайлавіча стаў выхадзец з ВКЛ Сімяон Полацкі.

Чалавек са стандартнай для рускіх інтэлектуалаў таго перыяду біяграфіяй: беларус, выпускнік Кіева-Магілянскай акадэміі, вучыўся ў Віленскай езуіцкай калегіі, затым перайшоў ва ўніяцтва, вярнуўся ў праваслаўе і, нарэшце — зрабіў бліскучую кар'еру ў Масковіі. Сімяон, самы вядомы маскоўскі літаратар сваёй эпохі, навучыў будучага цара Фёдара Аляксеевіча і царэўну Соф'ю польскай мове і лаціне.

Яшчэ ў большай ступені ўсё гэта датычыцца свецкай культурнай традыцыі — яе ў Маскве папросту не было, і яна была цалкам запазычаная з Заходняй Русі.

Можна сказаць, што на канец XVII ст. культурная эліта Масковіі цалкам складалася з этнічных беларусаў і ўкраінцаў. Рэфармаваная царква аказваецца цалкам і поўнасцю вотчынай выхадцаў з заходнерускіх земляў, уплыў якіх толькі ўзмацняецца.

З 127 архіерэяў у 1700–1762 гадах 70 былі ўкраінцамі ці беларусамі. Так, першыя шэсць галоўных членаў Святога сінода да 1757 года былі ўраджэнцамі Рэчы Паспалітай або гетманства і выпускнікамі кіеўскіх навучальных установ…

*(скарочана)*

**Ілля Дняпроўскі**
**budzma.org**

БЕЛАРУСЬ - ЕЎРОПА

# ЛУКАШЕНКО НЕ ХОЧЕТ ПОПАСТЬ В САНКЦИОННУЮ И ИЗОЛЯЦИОННУЮ БЕЗДНУ…

**Война в Украине продолжается сотый день. Экс-сотрудник МИД Беларуси, аналитик Европейского совета по международным отношениям (ECFR) Павел Слюнькин поделился с Филином мнением, чем эти три месяца обернулись для нашей страны.**

— Еще совсем недавно Чехия лечила белорусов, прошедших через Окрестина. Сегодня же Прага отказывает белорусам в визах. Подводя итоги первых ста дней войны в Украине, что бы вы отнесли к главным ее последствиям для Беларуси: для правящего режима и для белорусов?

— Если говорить о режиме Александра Лукашенко, то он не воспользовался той возможностью, которую ему давал этот региональный кризис. Я не знаю, он не смог этого сделать из-за той зависимости от Кремля, в которую он попал к февралю 2022-го. Или же он и правда не ждал, что война действительно начнется.

Но факт в том, что эта война, этот большой кризис давал ему возможность снова презентовать себя в роли миротворца. В том случае, конечно же, если бы нападение не происходило с белорусской территории.

Мы наблюдали повтор ситуации 2014-го, но куда более серьезной в плане рисков. Я думаю, не глядя на токсичность его репутации после 2020-го, если бы Беларусь заняла нейтральную позицию, заявила бы, что не позволит нападать на Украину со своей территории, что будет добиваться переговоров, например, у себя, не будет признавать оккупированные территории частью России, повторяя озвученное восемь лет назад, все это очень помогло бы Лукашенко выйти из международной нелегитимности и изоляции.

На него снова посмотрели бы иначе, исходя из прагматических оценок, учитывая те риски, которые российская агрессия в Украине несет странам Евросоюза, блоку НАТО, глобально — всему миру.

Война давала Лукашенко прекрасные возможности снова выйти на контакт с европейцами, выкарабкиваться из глубочайшей международной изоляции. И мы помним, что в первые дни ему позвонил президент Франции. Но это не получило продолжения.

Наверное, потому что Лукашенко уже находится в той ситуации, когда он ничего не может сделать. Он пытается минимизировать последствия санкций для себя, для своего режима, экономики. Опять же, ему очень некомфортно из-за статуса соучастника агрессии, но и с этим он ничего не может поделать.

Таким образом, главное последствие — режим не смог использовать войну в свою пользу… ОБСЕ не считает Беларусь стороной конфликта, но в резолюции ООН от 1974-го черным по белому написано: страна, предоставляющая свою территорию для агрессии в отношении третьей стороны, также является агрессором.

Именно такую позицию заняло международное сообщество — большинство стран мира и практически все страны Запада.

…Лукашенко безусловно не хочет попасть в ту санкционную и изоляционную бездну, в которую сейчас летит Россия. В чем его, я думаю, убеждает его политическая интуиция, инстинкт. Да и война, похоже, надолго. Поэтому он не стремится на дно вместе с Москвой, пытаясь с помощью имеющихся у него инструментов презентовать себя несколько иначе.

Если говорить о демократических силах, о гражданском обществе, то вспомним, как изображали белорусских сторонников перемен в 2020-м в европейской прессе. Как тех, кто укрепляет демократию, один из столпов. Как надежду европейской демократии на фоне того, что тогда происходило в Польше, Венгрии, популярности правых партий во Франции и Германии.

Война, в которую режим втянул Беларусь, автоматически изменила образ белорусов на образ агрессоров. Мне кажется, в этом есть определенная победа Лукашенко, неожиданная и для него самого. Это те плюсы, которые он получил от войны.

Своим соучастием в войне он бросил тень абсолютно на всех и все: и на тех, кто критикует власть в стране или за ее пределами, и на тех, кто в тюрьме, и кто воюет на фронте, и на белорусский паспорт. Забыт образ белоруса-демократа — снова вернулся образ диктаторского режима, который еще и в войне участвует…

*(скарочана)*

**Сергей Василевский**
**gazetaby.info**

МЭНЭДЖЭР ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

# ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ — ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЗАКЛАДВАЎ ПАДМУРКІ БЕЛАРУСКАСЦІ

**7 чэрвеня адзначаецца дзень нараджэння чалавека, імём каторага нармальная дзяржава мела б за гонар назваць Нацыянальную бібліятэку і размясціць яго партрэт на грашах. Сам я яго лічу галоўным мэнэджэрам беларускай дзяржаўнасці.**

Кажуць, што беларускі рух шмат у чым стварыла кніжка. А без гэтага чалавека гэтай кніжкі не было б, альбо невядома калі б яна была і якой. 142 гады гадоў таму нарадзіўся мой хэдлайнер пачатку мінулага стагоддзя Вацлаў Іваноўскі. Дзякуючы яму нацыянальны рух сто гадоў таму атрымаў магутны штуршок.

Паехаў вучыцца ў Піцер, сабраў студэнтаў-беларусаў у кучу і зацеяў "аванцюру". У часы, калі кніжка па-беларускай была такой жа рэдкасцю, як і кнігі на ліўскай мове сёння, а яшчэ і забароненай, ён выдае грошы зробленыя на студэнцкай практыцы на набыццё гектографа і пачынае выдаваць на забароненай мове ўлёткі, адозвы і ўрэшце кніжкі. Збірае вакол сябе маладых энтузіястаў. Ва ўласнай кватэры вучыць з імі культуру і гісторыю Беларусі. Там яны прыдумаюць першыя краўдфандынгавыя праекты і пачынаюць збор сродкаў. І самае важнае - рэалізуюць іх.

Іваноўскі бачыць, што беларускія дзеці не маюць уласнай азбукі. Ноў проблемс. Ён піша яе сам, на лацінцы. Замест sz, cz, ż піша š, č, ž. Бачыць, што па-беларуску няма тэхнічнай і навуковай літаратуры - пачынае перакладаць сам і просіць рабіць гэта іншых. Бачыць, што кнігі не трапляюць да чытача - сам стварае сетку распаўсюду. Яны прадаюцца ў Менску, Гародні, Магілёве, Піцеры, Вільні, Варшаве і г.д.

Пазней пачынаецца вышэйшы пілатаж. Калі ў Расейскай імперыі здымаецца забарона на беларускую мову, ён засноўвае выдавецтва "Загляне сонца і ў нашэ ваконца", якое робіць рэвалюцыю ў мазгах беларусаў. Упершыню ў гісторыі кнігі па-беларуску выходзяць масава. Тысячнымі накладамі. Але проста выдаваць - мала. Трэба ж знасці аўтараў. І як вы думаеце, якое імя адкрыў Іваноўскі? Самога Купалу. Гэта дзякуючы яму невядомы нікому Іван Луцэвіч выдаў сваю першую кнігу "Жалейка" і быў уцягнуты ў беларускі нацыянальны рух. Тое самае з Цёткай і процьмай іншых. Дарэчы, гэта Іваноўскі выдаў зборнік вершаў Янкі Лучыны, абдурыўшы цэнзуру, што гэта балгарская паэзія.

Іваноўскі выдае драматургію, што спрыяе развіццю тэатральных труп. Выдае першыя сельскагаспадарчыя кнігі для сялян на іх мове. Выдае навуковыя кнігі, аўтараў мала дык просіць пісаць сваю сястру, якая вучылася ў Кембрыджы. Тая, дарэчы, пісала пра Беларусь і ў ангельскія выданні. Выдае больш і больш мастацкай літаратуры, а гэта, вядома, стымулюе літаратараў пісаць больш і больш. Гэта ўжо сотні тысяч асобнікаў. Так ён стварае маладую беларускую інтэлігенцыю. Без гэтых кніжак нічога б не было. Бо што тады прыцягвала б новую кроў? Не было б ніякіх нацыянальных кадраў. І гэта ніякае не перабольшванне. Правадыром нацыянальнага -- яго перад І сусветнай вайной так назваў Максім Гарэцкі. Не верыць Гарэцкаму ў мяне няма падстаў.

Іваноўскі ўцягвае ў беларускія справы мецэнатку Радзівіліху, дапамагае стварыць выдавецтва Беларускай сацыялістычнай грамады, самай крутой беларускай палітычнай сілы на той час. Пераязджае ў Вільню і там таксама стварае двіжуху.

Іваноўскі не бачыў праблем, каб супрацоўнічаць з рускімі, палякамі і немцамі, калі іх дзеянні супадалі з беларускімі інтарэсамі. Гісторык Юры Туронак назваў яго рацыянальным рамантыкам, які з нічога стварыў нешта. Не пашкадуйце часу на кніжку "Вацлаў Іваноўскі і беларускае Адраджэнне".




Сёння добрая нагода.

www.facebook.com/hurnievic

РАСІЯ

# РОССИЙСКИЕ ЭЛИТЫ ВЫНУЖДЕНЫ БУДУТ КАК МОЖНО БЫСТРЕЕ ОТСТРАНИТЬ ОТ ВЛАСТИ РУКОВОДСТВО

**Почему Россия не может победить в войне с Украиной, и выйдут ли российские военные с вилами к кремлевской площади — об этом Филин побеседовал с политологом, директором Центра стратегических и внешнеполитических исследований Арсением Сивицким.**

Были опубликованны полученные от одного из украинских разведывательных органов аудиозаписи, на которых российские полковники матерят руководству РФ. Полковник Максим Власов сравнивает потери российской армии на войне в Украине с потерями на советско-финской войне. Его собеседник — полковник, военный медик Наро-Фоминского военного госпиталя в России Виталий Ковтун также не сдерживает эмоций и говорит, что скоро с вилами пойдет к кремлевской площади.

**Насколько реалистичен такой сценарий — чтобы российские военные открыто протестовали против участия войны в Украине?**

— Думаю, что не нужно списывать этот сценарий со счетов. Это связано с тем, что еще до начала войны ряд высокопоставленных отставных военных, которые до сих пор сохраняют корпоративные связи с армейским сообществом, предупреждали российское руководство о том, что если Россия начнет войну против Украины, то она может закончиться для нее стратегическим поражением.

В частности, о подобном риске говорил и генерал-полковник Леонид Ивашов, который адресовал обращение Владимиру Путину от имени общероссийского собрания офицеров с призывом не начинать войну с Украиной, а также отставной полковник Генерального штаба Вооруженных сил РФ Михаил Ходоренок, который еще за несколько недель до российского вторжения в Украину в своей статье «Прогнозы кровожадных политологов» детально описал, как будет развиваться этот конфликт на поле боя.

Он же предупредил, что российская армия столкнется с существенными трудностями, а сам этот конфликт для России будет крайне кровопролитным, затяжным и не соответствующим национальным интересам России.

Во многом эти предупреждения транслировали позицию высшего армейского командования РФ, включая министра обороны Шойгу и начальника Генштаба Валерия Герасимова, которые были с самого начала против проведения так называемой «специальной военной операции», так как тех сил и средств, которые накапливались на границе с Украиной перед началом конфликта (около 150 тысяч), было недостаточно, чтобы провести данную «операцию» успешно против государства, чья военная организация насчитывала более 500 тысяч человек, из которых не меньше половины обладали опытом участия в боевых действиях.

Изначально российские вооруженные силы готовились к совершенно другому сценарию — вводу «миротворческого» контингента на фактически занятые «ДНР/ЛНР» украинские территории и сдерживания возможного силовой реакции ВСУ в ответ на признание Кремлем их независимости.

Однако решение о начале этой «специальной военной операции» было принято Владимиром Путиным в очень узком кругу единомышленников, прежде всего под влиянием российских спецслужб — ФСБ, Росгвардии и ФСО. Это стало неприятным сюрпризом для российского армейского командования, которое даже выразило свой протест.

Именно по этой причине на первом этапе операции министр обороны и начальник Генштаба ВС РФ были выведены из процесса принятия решений. Они пропали тогда на значительное время из публичного пространства.

К тому же не было единого командующего этой «операцией». Вначале проведением операции руководил Кремль в лице Владимира Путина в ручном режиме на основании прямых директив верховного главнокомандующего, направляемых командирам подразделений на поле боя.

После того, как стали очевидны провалы в планировании и в проведении этой «операции» со стороны непосредственно спецслужб и Кремля, российское руководство было вынуждено вернуть Шойгу и Герасимова к процессу принятия решений, а также был назначен единый командующий этой «операцией» — командующий войсками Южного военного округа генерал армии Александр Дворников.

По сравнению с первым этапом, когда российские вооруженные силы понесли очень серьезные потери из-за непрофессионализма в подготовке данной «операции» и управлении со стороны российского руководства и спецслужб, с назначением военных и включением их в процесс принятия решений потери российских войск стали снижаться, а действия российских войск стали более осторожными.

Россия не может победить в этом конфликте, потому что она не готовилась к нему соответствующим образом, у нее отсутствуют необходимые финансовые, военные и дипломатические ресурсы для успешного ее завершения на выгодных для Кремля условиях.

Россия находится в геополитическом одиночестве, ее агрессию осуждают или не поддерживает практически все мировое сообщество, что было неоднократно отмечено в процессе голосования за соответствующие резолюции Генеральной ассамблеи ООН.

Наконец, не нужно забывать, что с выделением Украине со стороны Соединенных Штатов ленд-лиза, а также с формированием проукраинской коалиции в Рамштайне, который на сегодняшний день включает уже около 50 стран, Россия, по сути, вынуждена вести борьбу в этом конфликте не только с Украиной, но и также с ее союзниками, в числе которых государства ЕС и НАТО, Азии, Ближнего Востока и Африки.

…И, конечно же, как уже бывало в истории, поражение в этой войне может стоить нынешнему российскому руководству политической карьеры и даже привести к перевороту, в котором армия или спецслужбы традиционно играют ведущую роль.

Поэтому так или иначе не исключен сценарий, при котором российские элиты, включая военные, для того, чтобы предотвратить полную катастрофу в связи со стратегическим поражением, будут вынуждены как можно быстрее отстранить от власти политическое руководство.

Которое, как мы видим, не всегда адекватно оценивает собственные возможности, подменяет повестку развития повесткой войны и разрушений, а по факту действует в ущерб нацинтересам России.

…То есть раскол внутри российской элиты, который открыто проявился во время заседания Совбеза РФ 21 февраля, случился еще до начала «специальной военной операции». А это одно из базовых и необходимых условий для любого переворота.

*(скарочана)*

**Яна Соколова**
**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 15.06.2022 у 15.25** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.